

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №18 (34)**
**СНЕЖАНЬ 2015 ГОДА**

**ПАМЯЦЬ**

## ОБЩЕСТВЕННЫЕ АКТИВИСТЫ ПОЧТИЛИ ПАМЯТЬ ЖЕРТВ ВОЙНЫ

**5 декабря на окраине кладбища возле деревни Боровляны Витебского района члены КХП БНФ и партии БНФ установили самодельный крест для увековечения памяти расстрелянных фашистами в годы войны мирных граждан и партизан.**

В последнее время в Витебском районе на двух найденных местах массовых расстрелов советских граждан во времена сталинских репрессий представители общественной инициативы «Хайсы» установили целый ряд памятных крестов. А вот это место массовых захоронений, которое свидетели датируют 1942-1943 годами, было помянуто и почтено впервые.

О том, что на границе кладбища и поля находится массовое захоронение периода Второй мировой войны, один из создателей инициативы «Хайсы», член КХП БНФ Ян Державцев узнал от жительницы деревни Мазолово Лидии Ивановны Суходольский, которая с довоенных времен жила в Боровлянах. В сентябре активисты привезли ее на кладбище, и она показала место расстрелов.

Вот что рассказала Лидия Ивановна: «Здесь на поле возле кладбища и расстреливали – я знаю, потому что здесь на кладбище мой братик маленький был похоронен. Сама я не видела, как стреляли людей, но слышала, так как в деревне говорили: "Сегодня еще машину заключенных привезли и расстреляли возле кладбища". Это было в сорок втором или сорок третьем году. Была одна большая яма. Она сначала стояла открытая, а затем расстреляют – и трупы присыпят песком. В яме, наверное, сто человек лежало. Долго расстреливали. Это я знаю. А по ту сторону, что на Городок, немцы повесили Марину Галузу, и мальчика ее застрелили».

Как утверждает Ян Державцев, за последний год им были опрошены почти два десятка жителей Витебска и окрестных деревень – Мазолово, Дреколье, Боровляны, Лужесно, Хайсы. Большинство из них однозначно соотносят захоронение возле деревни Хайсы с довоенным периодом, а захоронение возле Боровлян со временами войны.

На сей счет господин Ян имеет свое мнение, свое видение ситуации: «Спросил я Лидию Ивановну и о том, расстреливали ли немцы кого-то в лесу за Хайсами. Она однозначно сказала: "Нет". Этот крест в Боровлянах мы решили установить потому, что ни районные власти, ни местные даже не знали об этом месте. В связи с чем возникает вопрос: "Если в лесу возле Хайсов на самом деле, как утверждают власти, немцы расстреливали советских граждан, то зачем им еще было возить осужденных на смерть сюда, в Боровляны?" Как-то нелогично получается: между этими местами всего пара километров. К тому же Хайсы ближе. Может, дело в том, что там советы расстреливали, а тут немцы? Однако власти не хотят резонанса из-за репрессий, захоронений, поскольку осуждения сталинизма вроде "Нюрнбергские процесса" в нашей стране не было. Как была здесь власть советов, так и осталась».

**С.Горький**
**dyjalog.info**

**ЦЭНТР УВАГІ**

## ПАД ВІЦЕБСКАМ БУНТУЮЦЬ ДАЧНІКІ

**Людзі, якія маюць лецішчы ў раёне будоўлі Віцебскай ГЭС, не спыняюць сваіх пратэстаў. У садаводчым таварыстве «Суднабудаўнік» правялі сход нязгодных з памерам кампэнсацый за зьнішчэньне маёмасьці.**

«Суднабудаўнік» месьціцца ля вёскі Цяцёркі Віцебскага раёну. Яшчэ ў траўні ўладальнікілецішчаўатрымаліафіцыйнае папярэджаньне аб заплянаваным падтапленьні іхных участкаў у выніку працы ГЭС, каб яны рыхтаваліся да зносу.

За зьнішчаную маёмасьць гаспадарам прапануюць грашовую кампэнсацыю. Але яе памер людзей не задавальняе: гэта грошы занадта малыя, каб набыць лецішча ў падобным месцы — недалёка ад гораду і на беразе вадаёму. Да ўсяго, у «Суднабудаўніку» ведаюць пра сумны досьвед суседняга садаводчага таварыства «Крыніца» — там ужо пазносілі лецішчы. А гаспадарам налічылі кампэнсацыі ў даляравым эквіваленце — але не па цяперашнім курсе валюты, а па тым, які ён быў на момант ацэнкі.

Свае прэтэнзіі ўладальнікі лецішчаў спрабавалі выкласьці на сходзе, куды былі вымушаныя прыехаць прадстаўнікі Віцебскага райвыканкаму, РУП «Віцебскэнэрга», праектнага інстытуту «Белгіпразем» ды іншых службаў. Але на ўсе пытаньні афіцыйныя асобы адказаць так і ня здолелі. Высьветлілася, што яшчэ няма канчатковага праекту, як мусіць быць уладкаваная тэрыторыя, вызваленая ад лецішчаў. І тэрмін зносу не акрэсьлены — «дзе-небудзь у лютым-сакавіку». Уладальнікі лецішчаў ня ведаюць нават, ці будуць зьнесеныя ўсе пабудовы на іхных участках, ці толькі часткова. І вельмі незадаволеныя памерам кампэнсацыяў.

«Чаму вы ўвесь час гаворыце пра нейкі „продаж“ нашай маёмасьці? Мы нічога не прадаем! Прадавалі мы маглі б і год, і два, і тры, пакуль не дамовімся на добры кошт. А, можа, увогуле падарылі б лецішча бясплатна каму-небудзь! Нашы лецішчы забіраюць гвалтам — які тут продаж? Дык чаму не прызначаюць цану, якая задаволіла б нас, гаспадароў?» — абураецца прадстаўніца «Суднабудаўніка» Валянціна Уладзіміраўна.

Спадарыня зьвяртае ўвагу на грубасьць службовых асобаў, якія не хацелі абмяркоўваць зь ёй гэтую праблему ў службовых кабінэтах. Ёй нават давялося пачуць пагрозы: «Калі будзеце скардзіцца — такой цаны не атрымаеце!»

Апрача цэнаў у «Суднабудаўніку» занепакоеныя тым, ці будзе ўлічвацца дэвальвацыя валюты. Кошт лецішча на дзень ацэнкі і на момант выплаты можа істотна адрозьнівацца, як паказвае рэчаіснасьць. Ці будзе гэта ўлічана, адказныя асобы ня могуць сказаць з поўнай упэўненасьцю. І падмацаваць свае абяцаньні нейкім дакумэнтам адмаўляюцца таксама. Таму гаспадары лецішчаў адкрыта кажуць: «З нас гвалтам робяць спонсараў будаўніцтва ГЭС, зьніжаючы кошт маёмасьці, за якую трэба плаціць зь бюджэту».

Увогуле прэтэнзіяў да тых, хто прадстаўляе «бок зносу», ва ўладальнікаў лецішчаў набраўся цэлы сьпіс. Аднак адказваць перад людзьмі на сходзе афіцыйныя асобы не захацелі. Пачуўшы шмат няўхвальных словаў, намесьнік старшыні Віцебскага райвыканкаму Павал Шыкшнін прапанаваў размаўляць індывідуальна: каб адмыслоўцы хадзілі па ўчастках, а гаспадары задавалі пытаньні прыватна.

Шмат пытаньняў тычылася мэтаду ацэнкі дамоў. Ён быў параўнальны: вызначаліся цэны, арыентаваныя на цэны іншых лецішчаў, збудаваных далёка не ў такіх зручных для адпачынку месцах.

Аляксандар Гулеў кажа, што адмаўляў пакупнікам, якія прапаноўвалі яму 9 тысяч даляраў, а цяпер дзяржава забірае ягоную хату зь іншымі пабудовамі за 6 тысяч зь нечым:

«Я дужа незадаволены зносам! Вы ж бачыце, якое гэта месца! Яно і нажытае — мы тут 40 гадоў жылі, бацькі нашыя пахаваныя на мясцовых могілках. А цяпер вось атрымалі расцэнкі. І мяне ўражвае, што мой участак ацэнены ў параўнаньні з участкамі таварыства ў пасёлках Акцябрскі ці Сялюты. Як гэта можна параўнаць? Параўнайце з участкамі на Дняпры, на Сожы, на возеры Лосьвіда! Чаму народ не перасяляць, выдаўшы ўчасткі ў аналягічным месцы, чаму не адбудаваць нам новыя дамы за гэтыя кошты, якія яны вызначылі? У нас жа сацыяльна-арыентаваная дзяржава? А зносяць нас — нібыта кулакоў нейкіх раскулачваюць. Вядома, дзяржаве патрэбная электраэнэргія, і нам яна патрэбная. Але чаму ж так несправядліва? Усе незадаволеныя, і незразумела, ці будзе нават прывязка да даляру. Мы змагаемся, каб сума была па курсе даляру на момант выплаты. Але ніхто нічога не абяцае, ніякіх дакумэнтаў няма. А што, хіба чыноўнікі ня могуць усе гэта загадзя прадумаць? Нас чарговым разам могуць проста кінуць!»

У «Суднабудаўніку» ёсьць мясцовая адметнасьць: тут знаходзіцца лецішча Глеба Гарбоўскага — расейскага паэта, аўтара вядомых савецкіх шлягераў «Розовый слон» і «Папа, подари мне куклу». Ягоны спадкаемца, пляменьнік Адрыян Фамін запрапанаваў арыгінальны спосаб захаваць пабудову як культурніцкі аб'ект, прычым за ўласныя сродкі:

«Калі будзе прынятае рашэньне пра знос і выплату кампэнсацыі, просім разгледзець магчымасьць пераносу дома на часовае захаваньне — за нашыя сродкі. Каб потым перамясьціць і ўсталяваць яго на пантоне на Дзьвіне, за нашыя ж грошы».

Каб увасобіць гэта, ужо знайшліся спонсары. Але чыноўнікі і прадстаўнікі ўладаў проста разгубіліся, ня ведаючы, што сказаць.

Канструктыўнага было сказана ўвогуле вельмі няшмат, лічыць Уладзімер Гушчанка. Ён заўважае, што да вырашэньня галоўнага пытаньня — пра прывязку кошту да даляру з улікам дэвальвацыі на момант выплаты — сход так і не прывёў:

«Сход — не, не прывёў. Вусна, на словах ні райвыканкаму, ні спэцыялістам верыць нельга. Таму падаем у суд. Там будзе пісьмовае рашэньне — як належыць выплачваць кампэнсацыю. А то мы ўжо з траўня гаворым пра гэта, а нам адказваюць раз — так, раз — інакш: то мы маем рацыю, то мы ня маем рацыі... Пакуль ня будзе дакумэнтаў, мы будзем трымаць гэта на кантролі. А калі гэта яшчэ й ня будзе выконвацца, то людзі проста ня выедуць з дамоў. Старыя, жанчыны, людзі сярэдняга ўзросту, моладзь, якая пісала Лукашэнку, — усе яны гатовыя ў лютым нават жыць у гэтых дамах, каб кантраляваць сытуацыю».

На супрацьлеглым ад «Суднабудаўніка» беразе Дзьвіны таксама ёсьць пратэстоўцы — жыхары вёскі Барвін Перавоз. Тут да зносу «асуджана» большасьць хат, а «зямельныя ўчасткі адымаюцца дзеля дзяржаўных патрэбаў», як сфармулявана ў дакумэнтах. На гэтым месцы РУП «Віцебскэнэрга» зьбіраецца зрабіць пляж і зону адпачынку каля штучнага вадаёму, што ўтворыцца пасьля пабудовы ГЭС. Але застанецца некранутай «віцебская Рублёўка» — пасёлак з дарагіх катэджаў.

***“Радыё Свабода”***

ГУЧНАЯ СПРАВА

# КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА «СЕНАТАРКІ» НАКІРАВАНА ПРАКУРОРАМ

**Расследаванне крымінальнай справы генеральнага дырэктара Віцебскай птушкафабрыкі Ганны Шарэйка завершана.**

Матэрыялы перададзеныя пракурорам для накіравання ў суд. Пра гэта паведаміў старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч. "З пункту гледжання следства, віна сенатаркі даказаная", - сказаў ён.

Як паведамлялася раней, па справе Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі ў жніўні мінулага года былі заключаны пад варту сем чалавек: Ганна Шарэйка, чатыры сябра конкурснай камісіі і два кампаньёна-пастаўшчыка.

Крымінальная справа ў дачыненні да шэрагу службовых асоб ААТ "Віцебская бройлерная птушкафабрыка" па фактах злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі імі была ўзбуджаная Генеральнай пракуратурай у чэрвені 2014 года. Устаноўлена, што яны на працягу некалькіх гадоў, будучы ў складзе конкурснай камісіі, прымалі рашэнні аб закупках кармоў і кармавых дабавак у замежнай камерцыйнай структуры па завышаных цэнах, што пацягнула прычыненне птушкафабрыцы шкоды ў суме больш за 4 млрд. рублёў, што з'яўляецца асабліва буйным памерам.

Паводле звестак Генпракуратуры, менавіта гендырэктар давала незаконныя ўказанні членам конкурснай камісіі аб прызнанні пераможцам конкурсу адной з замежных кампаній, з уладальнікам якой была ў сяброўскіх адносінах.

У сувязі з тым што Шарэйка з'яўляецца членам "савета рэспублікі", генеральным пракурорам на падставе дзеючага заканадаўства ў верхнюю палату было накіравана прадстаўленне аб дачы згоды на ажыццяўленне яе крымінальнага пераследу. Такая згода было атрымана 14 жніўня, і ў гэты ж дзень Шарэйка была прызнаная падазраванай у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 424 КК (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі). Па санкцыі Генеральнай пракуратуры 15 жніўня ў дачыненні да Шарэйка была прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

Устаноўлена, што ў выніку незаконных дзеянняў Шарэйка ў кароткія тэрміны пабудавала дарагі катэдж плошчай 240 кв. метраў, набыла дарагую бытавую і электронную тэхніку, забяспечыла сабе матэрыяльны дабрабыт у будучыні, паведамляла амаль паўтара гады таму Генпракуратура.

**С.Свойскі**

ЗДАРЭННЕ

# В ВИТЬБЕ ГОРЕЛА КОТЕЛЬНАЯ

**8 декабря в поселке Витьба Витебского района около 23:10 произошел пожар на частном деревообрабатывающем предприятии.**

Прибывшие на вызов пожарные обнаружили что в здании котельной, подающей воздух в деревообрабатывающий цех, горят перекрытия.

Пожар удалось локализовать в 23:25, а в 23:28 полностью ликвидировать. Пострадавших нет, сообщает пресс-служба МЧС.

Предполагаемая причина пожара – нарушение правил эксплуатации теплогенерирующих устройств и агрегатов. В результате пожара повреждено 10 квадратных метров потолочного перекрытия.

**К.Смоленский**

КРЫМІНАЛ

# ДЕВУШКА ОГРАБИЛА ПЕНСИОНЕРА

**Пенсионер из поселка Ольгово обратился в милицию с заявлением, что его ограбила неизвестная девушка.**

По его словам она вошла через незакрытую дверь в квартиру, открыто похитила 2 500 000 рублей, а затем скрылась.

Правоохранительным органам удалось установить, что ограбление совершила 28-летняя безработная местная жительница. Подозреваемую задержали, часть похищенного изъята, сообщает пресс-служба МВД.

**А.Адамов**

НАШЫ ДАРОГІ

# ЖИТЕЛИ НАРЕКАЮТ НА СОСТОЯНИЕ ДОРОГИ

**По их словам, в сухую погоду до населенного пункта еще можно доехать без приключений, но в весеннюю или осеннюю распутицу грунтовая дорога напоминает фронтовую.**

— Несколько раз дорожники пытались поровнять полотно, засыпали ямы и выбоины, — рассказывает старейшина деревни Раиса Марецкая, — правда все ненадолго. Буквально через пару месяцев на месте старых ухабов появляются новые. По нашему бездорожью даже отказываются ездить водители рейсовых автобусов, тракторам и тем сложно проехать.

Центр деревни тоже изрыт глубокими колеями. С этим участком дороги вообще парадокс: если на главных улицах лежит асфальт, то про эти несколько сотен метров как будто забыли.

Параллельно с проблемой дорог Раиса Федоровна пытается решить еще одну — это плохая мобильная связь. В XXI веке всего в нескольких десятках километров от райцентра дозвониться кудanибудь порой невозможно. Часто, чтобы сделать звонок, приходится выходить из дома и искать возвышенность, чтобы поймать сигнал с вышки. Кроме того, сложно в деревне оплачивать покупки и коммунальные услуги с помощью банковских пластиковых карточек. Из-за постоянных сбоев терминала часто эти операции не доступны.

На своем посту Раиса Федоровна уже не первый год. Однажды согласилась взять на себя проблемы всех и каждого и считает, что доверие нужно оправдывать.

Не без ее участия в Бентяях было установлено три контейнера для сбора мусора. Сельчане до сих пор не могут нарадоваться на беседку, которую пожилая женщина и ее сыновья соорудили в центре населенного пункта.

Есть проблемные ситуации, решить которые можно собственными силами, не привлекая чиновников, — говорит Марецкая. — Это касается наведения порядка на приусадебных участках, улаживания личностных конфликтов среди односельчан и других бытовых нюансов. К сожалению, дорожный вопрос мы не в состоянии решить исключительно своими силами…

**Елена Чаплева**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

ПОМНІК ПРЫРОДЫ

# НА УНІКАЛЬНАЙ САСНЕ ЎСТАЛЯВАЛІ АХОЎНУЮ ШЫЛЬДУ

**Каля вёскі Бібіраўка ў Віцебскім раёне, што на супрацьлеглым беразе Дзвіны ад Лужасна, на старой хвоі з'явілася шыльда, якая паведамляе, што гэтае дрэва мае назву "Ведзьміна лапа" і ахоўваецца народам.**

Хвоя ля Бібіраўкі адна з самых вялікіх хвой Рэспублікі Беларусь, яна мае дыяметр ствала 1,4 м, вышыню каля 28 м, узрост 250-300 год. Сапраўды такіх хвой на Беларусі няшмат. Некаторыя з іх маюць дзяржаўны ахоўны статус: напрыклад, у Белавежскай пушчы расце хвоя ўзростам 350 год, у нацыянальным парку "Прыпяцкі" так-сама ёсць 300-гадовая хвоя, а недалёка ад Віцебска, каля вёскі Сушчова Мазалаўскага сельсавета, можна пабачыць старую 250-гадовую хвою.

Аднак, ў адрозненні ад пералічаных грацыёзных старажылаў, бібіраўская хвоя незвычайная і ўнікальная па сваёй форме. На вышыні трох метраў асноўны ствол патройваецца. На вышыні каля 8м адзін з новых стваловў зноў патройваецца, а на вышыні каля 12 м другі ствол разыходзіцца на чатыры меншыя. Некаторыя ствалы абламаліся — такім чынам на сёння крона хвоі складаецца з сямі вялізарных самастойных стваловў.

Наша бібіраўская хвоя пакуль немае ніякіх афіцыйных ахоўных статусаў. Але зачараваныя прыгажосцю тутэйшых прыдзвінскіх краявідаў мясцовыя вяскоўцы і дачнікі наведваюць хвою, вымяраюць яе сваімі абдымкамі, ды абяцаюць ахоўваць сваімі сіламі. Пра гэтыя і сведчыць надпіс на шыльдзе. Энтузіясты з месцічаў сталі ініцыятарамі стварэння шыльдачкі з мэтай прыцягнуць увагу, папулярызаваць і захаваць унікальны помнік прыроды віцебскага наваколля.

Вядомы віцебскі краязнаўца Мікалай Півавар тлумачыць з'яўленне незвычайнай назвы хвоі ў Бібіраўцы. Ён сцьвярджае, што чуў ад тубыльцаў прыблізна наступнае паданне:

Нібыта ўдаўнія часы ў Бібіраўцы жыла ўдава якая зналася з нячысцікам. Пераўтвараючыся ў дзікіх звяроў, яна шкодзіла людзям. Але аднойчы, ў ноч перад Калядамі, яе падпільнаваў у хляве адзін малец. Ведзьма пераўтварылася ў зайца ды прыйшла шкодзіць хатняй жывёле. Малец моцна параніў зайцу лапу, ды пабег за ім у пагоню па крываваму следу. За вёскай след знік каля маладой хвоі – тут ляжала і адсечаная лапа зайца. На наступны дзень людзі хадзілі адзін да аднаго калядаваць і завіталі да ўдавы. Ажно бачаць – гаспадыня сумуе, ды рука ў яе крывавай хусткай заматаная. Тут яны і зразумелі людзі хто ў вёсцы з нячысцікам знаўся і шкоду розную рабіў. Таму прагналі ведзьму з вёскі. З таго часу сталі заўважаць тубыльцы дзівосныя пераўтварэнні той хвоі, каля якой малец знайшоў адсечаную лапу зайца. Стала яна моцна і каржакавата распранацца ствалом да галінамі на ўсе бакі свету, нагадваючы сваім відам велічэзную страшэнную далонь ведзьмы, павернутую пальцамі да неба. Так і празвалі гэтую хвою – Ведзьміна лапа.

Паданне сцьвярджае, што прагнаная з Бібіраўкі вядзьмарка заўсёды вяртаецца да гэтай хвоі. На яе галінах, самых высачэзных ва ўсёй акрузе, на Купальскую ноч збіраецца шмат ведзьмаў і рознай нечысці. Стаіць хвоя і дагэтуль, бо ніколі не секлі яе вяскоўцы – дужа баяліся помсты ад ведзьмаў…

Знайсці і пабачыць хвою вельмі проста. Яна знаходзіцца ў спісе "Славутасці пасёлка Лужасна" і адпаведна пазначана на мапе Гугл.

А зацікаўлены віцяблянін павінен накіравацца ў Уланавічы і сыйсці з аўтобуса на прыпынку каля новай крамы "Віцебскія прадукты". Потым паўгадзіны пешшу праз прыгожы лес да вёскі Бібіраўка. На апушцы лесу, каля вёскі, злева ад дарогі хвоя добра бачна – цяжка памыліцца.

**Аляксандр Аніськовіч**
**news.vitebsk.cc**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# БАНКЕТНАЯ ПРАМОВА СЬВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ

**10 снежня Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры з рук шведскага караля Карла Густава XVI. На банкеце ў Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы першая беларуская нобэлеўская ляўрэатка згадала Адамовіча і Быкава і расказала сьвету пра Беларусь.**

"Я дзякую Шведскай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую ня маю права сабе прысвоіць, я разумею яе як паклон многім пакаленьням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лябараторыі сьветлай будучыні. Як паклон іх пакутам і іх болю. Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лягерах, на шахтах Магадану і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусьветнай вайны і іншых войнаў, якія вяла імпэрыя. Вялікая ідэя бязьлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не бывае балюча. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтататалітарызм розных масьцяў — расейскі, беларускі, казахскі... Павольна і няўпэўнена выбіраемся мы з пад абломкаў «чырвонай» імпэрыі. Адна з гераіняў маёй кнігі «Час second-hand», у якой уся сям'я была высланая ў Сібір і там загінула, са сьлязамі на вачах сьпявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

*Утро красит нежным светом*
*Стены древнего Кремля,*
*Просыпается с рассветом*
*Вся советская земля...*
*Кипучая,*
*Могучая*
*Никем не победимая*
*Страна моя,*
*Москва моя,*
*Ты самая любимая...*

Мінуўшчына не выпускала яе з сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё роўна верыла. У што?

Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Менску ў аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзьве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсьць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!» Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам. Пасьля жнівеньскага путчу 1991 году, калі Беларусь атрымала незалежнасьць, ужо вырасла некалькі пакаленьняў. Укожнага зь іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх зьбівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсьць.

Свабода — гэта ня хуткае сьвята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем.

Мы ўсе жывем у агульным сьвеце. Ён называецца — Зямля. У гэтым нашым сьвеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захапленьня, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расейскай, ангельскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха барбарства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае.

Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам — што мы ўступілі ў бясьпечны сьвет. Я памятаю дыялёгі Гарбачова з Далай-ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёньня ўсё гэта здаецца прыгожай казкай.

Цяпер мы сьведкі новай схваткі дабра і зла. Сьведкі і ўдзельнікі.

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Украіне з уцекачамі з Данбасу, я чула, як хутка зьлятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Выкрываецца зьвер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменьнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасьцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі напамяць. Пішу, нашто? Мяне называюць пісьменьнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісьць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...

На разьвітаньне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай залі прагучала беларускае слова, мова майго народу:

У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: *"Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, агляніся на маю хатку. Агляніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек аглядваецца не па чужынцы, а ўжо з сэрцам..."*

Я хачу падзякаваць вам за ваша сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль."

**"Радыё Свабода"**




БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ВОПРОС РОССИЙСКОЙ АВИАБАЗЫ ОТОДВИНУТ

**В те минуты, когда в Кремле напряженно переговаривались президенты Беларуси и России, в Национальном аэропорту под Минском встречали морем цветов писательницу Светлану Алексиевич, вернувшуюся из Стокгольма с Нобелевской премией.**

Но если та возвратилась в родные пенаты с триумфом, то Александр Лукашенко похвалиться плодами закончившегося 15 декабря московского визита вряд ли может.

Были времена, когда он прилетал из белокаменной в приподнятом настроении, с договоренностями о кредитах и дешевых энергоносителях.

Ныне же в актив, и то весьма условно, можно записать разве что одно — вопрос о размещении в Беларуси российской авиабазы отодвинут.

**Пришлось подписать заявление «ниочем»**

По итогам переговоров в Кремле президенты подписали совместное заявление, суть которого на сетевом сленге можно выразить как «ниочем». Например, «Беларусь и Россия договорились скоординировать усилия в Союзном государстве и Евразийском экономическом союзе по созданию дополнительных условий для увеличения объемов взаимной торговли и повышения деловой активности реального сектора экономик двух государств».

Гениально! Раньше, надо думать, не координировали, а теперь наконец-то договорились координировать.

«Судя по тому, что в итоговых публичных заявлениях не прозвучали слова «авиабаза», «нефть», «кредит», стороны по большому счету не договорились по ключевым вопросам», — заявил в комментарии для Nav-iny.by минский аналитик-международник Андрей Федоров.

По его мнению, нет никаких гарантий, что через неделю спорные вопросы будут развязаны. Более того, трудно прогнозировать, в каком направлении пойдет развитие отношений — в сторону шлифовки договоренностей или в сторону конфронтации, отметил собеседник.

Эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич, со своей стороны, предположил в комментарии для Nav-iny.by, что правительствам могли делегировать такие вопросы, как условия выдачи кредита Евразийского фонда стабилизации и развития (ЕФСР), цена и объем поставок нефти в Беларусь в будущем году, судьба вывозных пошлин на нефтепродукты (Минск хочет целиком оставлять их в республиканском бюджете).

В то же время, считает Карбалевич, «обмен кредита на авиабазу осуществить не удалось».

По его мнению, утверждение пресс-секретаря Путина Дмитрия Пескова, что тему авиабазы президенты не затрагивали, звучит смешно, поскольку перед переговорами близкие к российскому руководству источники заявляли, что этот вопрос будет обсуждаться.

«Вопрос авиабазы отодвинут, поскольку белорусская сторона ее размещения не хочет», — убежден Карбалевич.

**Украина, Сирия, Турция — у Минска свой интерес**

Явно не захотел Лукашенко и вербально поддержать Кремль в конфликте с Турцией. Путин был вынужден от себя обтекаемо заметить, что у Москвы и Минска близкие позиции по украинскому кризису и борьбе с терроризмом в Сирии.

Ну, то, что Минск против терроризма, ежу понятно. А вот Турцию Лукашенко, находясь несколько дней назад в Ашгабате, подчеркнуто назвал «дружественной нам» и в целом призвал «не нагнетать», идти на уступки и компромиссы (из контекста вытекало: обеим сторонам). Ранее он принял в Минске ближайшего союзника Анкары — президента Азербайджана Ильхама Алиева.

Поговаривают, что белорусский президент не прочь умножить лавры миротворца, заработанные на украинском кризисе, через предоставление площадки и для разруливания ближневосточной проблематики.

Этот номер вряд ли прокатит, однако факт то, что ссориться с турками, как и ранее с украинцами, белорусскому руководству (да и всему народу) абсолютно ни к чему. И с теми, и с теми у Минска хорошая торговля, взаимный экономический интерес, да и вообще — зачем? Беларусь — не империя, ей ни к чему доказывать крутизну через конфронтацию с другими странами, влезание в войны на чужих землях.

Между тем прокремлевские комментаторы возмущаются, что на белорусском топливе летают самолеты и ездят танки «киевской хунты». Так что слова Путина о близких позициях по Украине — скорее попытка сделать хорошую мину.

Продвигая экономический интерес Минска, Лукашенко сдержанно заметил: «Беларусь поддерживает и разделяет цели реализуемой в России программы импортозамещения, но эта программа ни в коем случае не должна ухудшать возможности и условия поставок белорусских товаров и услуг. Тем более что они закреплены как двусторонними соглашениями, так и нормами ЕАЭС».

Здесь смысловой акцент падает на ту часть фразы, которая идет после «но». Минск недоволен, что рынок восточной соседки сужается для белорусского экспорта. Причем Россия не особо оглядывается на интеграционные договоренности (справедливости ради отметим, что и для белорусского начальства они не священная корова).

**Авиабаза: клинч продолжится**

Таким образом, узел двусторонних противоречий президенты встречей 15 декабря не развязали.

У Москвы в руках сильные рычаги, чтобы продавливать авиабазу. Белорусское руководство подвесило проект бюджета на будущий год, видимо, не зная, как его наполнять, в частности потому, что мировые цены нефти упали ниже плинтуса предварительных расчетов. Так что получение кредита ЕФСР и энергетических субсидий — вопрос жизни и смерти «белорусской модели».

Однако фишка белорусско-российских отношений в том, что хвосту часто удается вертеть собакой. Во всяком случае, несомненно, что Лукашенко применит весь опыт такого рода, чтобы упираться против базы до последнего. А вопрос о ней может стать ребром уже на саммите ОДКБ 21 декабря.

Поражение же в этом вопросе станет ударом не только по имиджу, но и по статусу полновластного хозяина страны (база окажется неуправляемым чужеродным телом, потенциально — с носителями ядерных зарядов), и по только-только вышедшим на плюс отношениям с Евросоюзом и США. Причем те именно за отказ от авиабазы могут дать кредит МВФ в три миллиарда долларов.

Минск пытается удержать немыслимый геополитический шпагат.

**Александр Класковский**

ІНТЭРНЭТ ГАНДАЛЬ

# …ТАМ, ЗА ГРАНИЦЕЙ, В РАЗЫ ДЕШЕВЛЕ…

**Председатель Совета Республики Михаил Мясникович будет продолжать настаивать на введении налога на покупки белорусов в заграничных интернет-магазинах: «Оценочная стоимость посылок из-за рубежа намеренно занижается».**

По его словам, стоимость этих посылок намеренно занижается, сообщает БЕЛТА.

— Они оцениваются в 5, 10 долларов… Хотя на самом деле фактическая стоимость совершенно другая, поэтому бюджет недополучает НДС, пошлины, — обосновал свою позицию Михаил Мясникович и рассказал, что за полгода белорусы получили 4,4 миллиона посылок из-за границы. — Я не против того, чтобы покупали это, но идет просто подлог фактической стоимости. Это позволяет уходить от таможенных пошлин, платежей и так далее.

Впервые идею брать налог с посылок из заграничных интернет-магазинов Михаил Владимирович озвучил летом этого года. Позднее Нацбанк поручил коммерческим банкам рассмотреть техническую возможность взимания дополнительного сбора с физлиц на этапе оплаты товаров по карточке банкам. Финансовые учреждения уведомили регулятор о том, что не имеют такой технической возможности.

«Я считаю, что это неправильный подход. Буду на этом настаивать. Ведь, когда мы приходим в магазин, на кассе пробивают НДС, и программное обеспечение срабатывает. Каждый покупатель уплачивает налог. У нас есть регистрация на каждую посылку. При ее вручении вполне можно этот вопрос решить», — заключил Михаил Мясникович и привел в пример ЕЭК, которая сейчас как раз рассматривает варианты пошлины для таких посылок.

Как напоминает FINANCE.TUT.BY, один из вариантов предусматривает освобождение от таможенных платежей товары, которые дешевле 22 евро и весом ниже 1 килограмма. Посылки, которые попадают в диапазон 22–150 евро и 1–10 килограммов, потребуют уплаты налога в размере 15 евро. Согласно второму варианту, товары с таможенной стоимостью до 150 евро и весом не более 10 килограммов будут облагаться сбором в 10 евро. Если таможенная стоимость посылок превышает 150 евро, а вес — более 10 килограммов, тогда сбор составит 10 евро плюс 30% от таможенной стоимости, но не менее 4 евро за 1 кг веса.

– Михаил Мясникович – вообще очень «креативный» чиновник в деле изъятия денег у граждан, – летом, как только была озвучена новая идея, заявила «Салідарнасці» Татьяна Короткевич. – Он был одним из инициаторов декрета «о тунеядцах». Теперь еще придумал брать налог с товаров, которые граждане получают по почте из-за границы. Государство в условиях экономического кризиса и снижения уровня доходов людей в очередной раз не находит ничего лучшего, чем решать за счет граждан проблемы, которые Мясникович и прочие «экономисты» сами же и создали.




Реакция Байнета: «Уже не знают, где еще урвать из кармана населения»

Форумчане сразу же отреагировали на свежее заявление бывшего премьер-министра. Предлагаем избранное с открытой дискуссионной площадки talks.

«Скорее, это стоимость товаров у Мясниковича в стране намеренно завышается. Причем, самым наглым образом».

«Не пробовали качественную и дешевую продукцию производить?».

«Мясникович никак не может понять, что там, за границей, в РАЗЫ ДЕШЕВЛЕ».

«Господам мало на коттеджи и немецкие машины? Уже не знают, где еще урвать из кармана населения».

«Грустно, что они до самого конца не поймут, что никакие новые налоги их не спасут».

**http://gazetaby.com**

КАРУПЦЫЯ

# МАСАВЫЯ АРЫШТЫ ЧЫНОЎНІКАЎ

**Арыштаваныя былыя міністар гандлю Валянцін Чаканаў і два намесьнікі міністра – транспарту Васіль Півавар і сельскай гаспадаркі Яўген Рагачоў.**

На сайце kp.by зьявілася паведамленьне пра верагоднае затрыманьне былога міністра гандлю Валянціна Чаканава. Паводле выданьня, якое спасылаецца на старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка, «Чаканавым займаецца Сьледчы камітэт».

Валянцін Чаканаў адпрацаваў на пасадзе міністра гандлю з 2009 году. Ён адзіны міністар з ураду прэм'ера Ўладзімера Кабякова, які ня быў наноў прызначаны пасьля выбараў у кастрычніку. З пасады міністра гандлю Валянцін Чаканаў быў адпраўлены ў адстаўку 17 сьнежня.

Кіраўнік КДБ заявіў пра арышты былога намесніка міністра сельскай гаспадаркі Васіля Півавара і транспарту Яўгена Рагачова і бізнэсмэна Ўладзімера Япрынцава. Пра гэта паведамляе БелаПАН са спасылкай на старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка.

Васіль Півавар і Яўген Рагачоў былі вызваленыя ад займаных пасадаў у адзін дзень, 4 сьнежня, з аднолькавай фармулёўкай: «у сувязі з учынкам, несумяшчальным са знаходжаньнем на дзяржаўнай службе».

Акрамя таго, Вакульчык пацьвердзіў факт затрыманьня намесьніка генэральнага дырэктара кампаніі «Трайпл» Уладзімера Япрынцава і паведаміў, што той абвінавачваецца ў махлярстве.

Інфармацыя пра затрыманьне Япрынцава зьявілася яшчэ ў жніўні, але да гэтага часу афіцыйнага пацьверджаньня гэтага факту не было.

**Алег Груздзіловіч**

ПОСТСАВЕЦКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# САЮЗЬНІКІ НЕ ПАДТРЫМАЛІ ВАЯЎНІЧУЮ ПАЗЫЦЫЮ РАСЕІ

**Галоўная інтрыга самітаў АДКБ і ЭАЭС у Маскве 21 сьнежня палягала ў тым, ці патрымаюць саюзьнікі ваяўнічую лінію Расеі на ўцягваньне ў канфлікты з суседзямі.**

На саміце АДКБ абмяркоўвалася супрацьстаяньне РФ з Турэччынай. У гэтым пытаньні склалася супярэчлівая і трохі дзіўная сытуацыя. З афіцыйных заяваў МЗС краін-чальцоў АДКБ, саюзьнікаў Расеі, вынікала, што тыя займаюць пазыцыю нэўтралітэту. А Лукашэнка, выступаючы ў Туркмэністане, загаварыў нават пра памылкі РФ у гэтым канфлікце.

І вось саміт АДКБ нібыта сапраўды падтрымаў РФ у яе канфлікце з Турэччынай. Пра гэта заявіў прэзыдэнт Арменіі, якая старшынюе цяпер у арганізацыі, Серж Саргсян. Па выніках паседжаньня ён адзначыў: «Мы, як саюзьнікі Расеі, выказваем салідарнасьць і падтрымку пазыцыі Масквы па гэтым інцыдэнце».

Але тут ёсьць важныя нюансы. Інфармацыю пра такую пазыцыю на закрытай сустрэчы прэзыдэнтаў даў толькі Серж Саргсян. Вядома, што ў Арменіі даўняя гістарычная варажнеча з Турэччынай. Таму ягоная інтэрпрэтацыя можа быць не зусім аб'ектыўная. Астатнія прэзыдэнты на гэты конт прамаўчалі.

Па выніках саміту АДКБ была прынятая толькі заява «Аб супрацьдзеяньні міжнароднаму тэрарызму». У гэтым афіцыйным дакумэнце пра канфлікт Расеі з Турэччынай нічога не гаворыцца. Таму, відаць, падтрымка вельмі ўмоўная.

Ня менш знамянальным быў і саміт ЭАЭС. Справа ў тым, што з 1 студзеня 2016 пачне дзейнічаць пагадненьне аб асацыяцыі паміж Украінай і Эўрапейскім Саюзам. Адным з ягоных элемэнтаў зьяўляецца зона вольнага гандлю. 16 сьнежня прэзыдэнт РФ Уладзімір Пуцін падпісаў указ аб прыпыненьні дзеяньня дамовы аб зоне свабоднага гандлю СНД з Украінай з 1 студзеня 2016 году.

Сытуацыя, калі адзін з чальцоў мытнага саюзу ў аднабаковым парадку ўводзіць эксклюзіўны гандлёвы рэжым зь нейкай трэцяй дзяржавай, дзіўная і абсурдная. Гэтая абсурднасьць выявілася яшчэ год таму, калі Расея ўвяла эмбарга на імпарт харчаваньня з ЭЗ. Што прывяло на практыцы да вялікага аб'ёму рээкспарту забароненых тавараў праз Беларусь, пэрманэнтных прэтэнзій з гэтай нагоды Масквы да Менску. Гэтае рашэньне РФ апрыёры праграмавала канфлікт паміж чальцамі ЭАЭС. Таму што, калі ў адной краіны-чальца мытнага саюзу існуе іншы гандлёвы рэжым з трэцяй дзяржавай, то дэ-факта мытны саюз ня дзейнічае, ён разбураецца.

Але Расея на гэтым не спынілася. У лістападзе Масква ўвяла забарону на імпарт харчовых тавараў з Турэччыны. І вось цяпер выходзіць з рэжыму вольнага гандлю з Украінай. Відавочна, гэта больш палітычнае рашэньне, чым эканамічнае, працяг расейска-ўкраінскага канфлікту іншымі мэтадамі.

Саміт ЭАЭС не падтрымаў Расею ва ўкраінскім пытаньні. Фармальна прынялі рашэньне пачакаць паўгода, паглядзець («правесьці маніторынг») якія будуць наступствы пагадненьня аб асацыяцыі паміж Украінай і ЭЗ, ці сапраўды эўрапейскія тавары праз украінскую тэрыторыю будуць трапляць на рынкі краін ЭАЭС. І толькі пасьля гэтага прымаць нейкія захады.

Але аднабаковае рашэньне Расеі стварае глебу для новых беларуска-расейскіх супярэчнасьцяў. Можна чакаць, што будзе адбывацца рээкспарт украінскіх тавараў у Расею праз Беларусь.

І тут узьнікае больш глябальнае пытаньне. Ці магчымы эканамічны саюз паміж краінамі ЭАЭС, калі нават паўнавартасны Мытны саюз ня можа эфэктыўна працаваць, ён разбураецца на вачах. Мытны саюз у параўнаньні з эканамічным саюзам — ніжэйшы ўзровень інтэграцыі. Дык калі нават ён працуе з такімі хібамі, то пра што можна казаць.

**Валер Карбалевіч**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч
**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.
**Падпісана да друку** 29.12.2015 у 14.35
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцы аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.